**№ 152 (1965)**

Серада, 18 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +25...+27, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +17...+19, навальніцы; у Гродне ўдзень — +25...+27, без ападкаў, уначы — +18...+20, навальніцы; у Віцебску ўдзень — +21...+23, уначы — +17...+19, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +25...+27, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +25...+27, уначы — +17...+19, на працягу сутак — без ападкаў.

www.meteo.by



**ПУЛЬС**

## Басінскі і Лукашык не трапілі ў фінал

Беларусы Ігар Басінскі і Канстанцін Лукашык не змаглі прайсці кваліфікацыю (увайсці ў васьмёрку лепшых) у стральбе з матчавага пісталета (дыстанцыя — 50 метраў). Басінскі заняў 15-е месца (сярэдні вынік — 9.233), Лукашык — 37-е (8.983).

## Максім Мірны выйшаў у трэці круг

Беларускі тэнісіст паспяхова прайшоў другі круг адзіночнага разраду Алімпіяды. Сёння днём ён выйграў у фіна Яарка Ніемінена — 6:3, 6:4. У 1/8 фіналу беларус сустрэнецца з пераможцам пары Хуан Карлас Ферэра (Іспанія) / Мардзі Фіш (ЗША).

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Дзяржкантроль выявіў парушэнні

*Камітэт дзяржаўнага кантролю (КДК) выявіў парушэнні парадку рэгістрацыі, атрымання і выкарыстання гуманітарнай дапамогі падчас праверкі віцебскага грамадскага аб'яднання "Дапамога дзецям Чарнобыля".*

Паводле звестак КДК, у акце прыёмкі замежнай бязвыплатнай дапамогі на суму 11.139 еўра з нямецкага горада Нінбург не былі адлюстраваны колькасныя і якасныя разыходжанні з суправаджальнымі дакументамі. Установлена, што арганізацыя перадала частку дапамогі для размеркавання іншым юрыдычным асобам без узгаднення з дэпартаментам па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Беларусі.

Падчас праверкі таксама выяўлены факты выкарыстання гуманітарнай дапамогі не па мэтавым прызначэнні: 496 кілаграмаў грузу было перададзена атрымальнікам, якія не ўваходзілі ў план размеркавання, а 212 кілаграмаў спісалі як вагу ўпакоўкі.

Матэрыялы праверкі па фактах нямэтавага выкарыстання бязвыплатнай дапамогі ГА "Дапамога дзецям Чарнобыля" накіраваны ў гаспадарчы суд Віцебскай вобласці.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## «ІНКО-ФУД» яшчэ спадзяецца

*Замежнае прадпрыемства (ЗП) "ІНКО-ФУД" разлічвае на адмену пастановы суда Ленінскага раёна Брэста аб вяртанні ў даход дзяржавы больш як 1 тысячы тон мясной сыравіны.*

Як паведаміў БелаПАН выканаўчы дырэктар ЗП Валерый Сахашчык, такое рашэнне суд прыняў 6 жніўня. Аднак кіраўніцтва прадпрыемства з ім не згоднае, у сувязі з чым і звярнулася з касацыйнай скаргай у Брэсцкі абласны суд. Акрамя таго, "ІНКО-ФУД "накіравала ў пракуратуру вобласці заяву з просьбай забяспечыць праверку законнасці дзеянняў службовых асоб пры разглядзе гэтай справы аб адміністрацыйна-мытным правапарушэнні.

Адміністрацыйная вытворчасць у дачыненні да ЗП "ІНКО-ФУД" была ўзбуджана Брэсцкай мытняй. Прадпрыемства абвінавачвалася ў перадачы мясной сыравіны для часовага захоўвання акцыянернаму таварыству "Аблпрадаптгандаль", якое размешчана на тэрыторыі СЭЗ "Брэст", але не з'яўляецца яе рэзідэнтам. На думку мытнікаў, такая перадача неправамерная і сыравіна падлягае мытнаму афармленню, нягледзячы на тое, што падобнае афармленне дзеючым заканадаўствам аб СЭЗ не прадугледжана.

Тым не менш суд Ленінскага раёна Брэста ў кароткія тэрміны вынес пастанову аб вяртанні ў даход дзяржавы мясной сыравіны на суму 3,5 мільярда рублёў і штрафныя санкцыі.

"Мы лічым, што гэтая пастанова вынесена з відавочнымі парушэннямі дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якое рэгламентуе працэдуру вытворчасці па адміністрацыйных справах, — заявіў В.Сахашчык. — Справа была разгледжана ў адсутнасць службовай асобы "ІНКО-ФУД", што знаходзілася на стацыянарным лячэнні ў Брэсцкай абласной бальніцы і ў дачыненні якой вынесена пастанова. Не быў забяспечаны выклік у судовае пасяджэнне сведак і запатрабаванне дадатковых доказаў, якія маюць істотнае значэнне для ўстанаўлення ісціны па справе, а таксама прысутнасць пры разглядзе справы прадстаўнікоў нашага прадпрыемства, якія з'явіліся ў будынак суда, і іншых зацікаўленых асоб, Брэсцкага аблвыканкама, адміністрацыі СЭЗ "Брэст", Консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце і шмат іншых".

Улічваючы ўсе гэтыя абставіны, кіраўніцтва "ІНКО-ФУД" спадзяецца на тое, што вышэйстаячая судовая інстанцыя забяспечыць аб'ектыўны разгляд гэтай справы ў найбліжэйшы час.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## З новага навучальнага года дзённікі можна будзе набыць у школах

З 2004/2005 навучальнага года дзённікі ўнесены ў пералік вучэбна-метадычнай літаратуры, і іх можна будзе набыць у школе разам з падручнікамі.

Зараз ва ўсіх магазінах ідзе распродаж дзённікаў старога ўзору. Як сцвярджаюць у Міністэрстве адукацыі, яны яшчэ могуць быць выкарыстаны на працягу гэтага навучальнага года.

Плата за карыстанне камплектам падручнікаў у новым навучальным годзе складзе ад 2 тысяч 420 рублёў (для 3-га класа), да 10 тысяч 850 рублёў — для 11-га класа.

**Вольга АСІПЕНКА.**

**ЧУЛІ?**

# «Суддзі ў Беларусі могуць вымерці, як маманты...»

### Паміж Лябедзькам і Зімоўскім адбылася дуэль на слоўніках

*Суд Першамайскага раёна г. Мінска пасля шматлікіх адтэрміновак у рэшце рэшт адмовіў лідэру Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатолю Лябедзьку ў іску да Белтэлерадыёкампаніі, а таксама да каналаў СТБ і АНТ. Прычынай падачы іскавай заявы аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі А. Лябедзькі, нагадаем, стаў фільм "Дорога в никуда", які прайшоў на каналах гэтых кампаній у маі, а потым у жніўні быў паўтораны на канале БТ.*

У адрозненне ад папярэдніх судовых пасяджэнняў, на якіх суд упарта не прымаў канчатковага рашэння, на гэты раз у зале суда прысутнічалі ўсе тры прадстаўнікі з боку адказчыкаў — БТ, АНТ і СТБ. Існец, як сцвярджаюць яго прадстаўнікі, быў незадаволены амаль усім зместам фільма, але ўвагу засярodзіў на наступных словах, якія мовіў закадравы голас у фільме ў той час, калі на экране дэманстраваўся "маўклівы" Лябедзька: *"Когда господин Миллер приказал перекрыть поступление газа в нашу республику в 20-градусный мороз, желая вынудить наше руководство за бесценок отдать ему "Белтрансгаз", фактически в поддержку этой акции выступил псевдопатриот Лебедько. Поливая грязью свою страну, клевеща на президента, он помогал господам типа Сванидзе морально оправдать эту бесчеловечную акцию. Только в кошмарном сне можно представить, как быстро распродал бы этот молодчик наше национальное достояние своим друзьям-олигархам, если бы каким-то чудом он получил власть в Беларуси".*

*"З аднаго боку, рашэнне суда прагназуемае,* — заявіў у інтэрв'ю "Народнай волі" **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА**. — *З другога ж боку, у мяне ўзнікла пытанне: за што атрымлівае зарплату суддзя Анатоль Аніскевіч? Два дні ён выслухоўваў аргументы двух бакоў, калі галоўны юрысконсульт Першага нацыянальнага канала Андрэй Іваноў заяўляў, цытую: "У мяне сапраўды не было доказаў таго, што гаварылася ў фільме, я гэта не адмаўляю", а прадстаўнік канала АНТ спадарыня Пархоменка на маё канкрэтнае пытанне, ці ёсць у яе доказы маіх сувязяў з расійскімі алігархамі, а таксама планаў нешта прыватызаваць у Беларусі за бясцэнак і што я сапраўды падтрымаў непастаўкі расійскага газу ў Беларусь, адказала, што ў яе персанальна няма. Усё гэта суддзя выслухаў, а потым прыняў рашэнне мне ў іску адмовіць".*

Два прадстаўнікі адказчыка адмовіліся прызнаць іск, не прывёўшы пры гэтым ніякіх аргументаў суду. І толькі адзін з адказчыкаў — старшыня канала СТБ Аляксандр Зімоўскі, які напярэдадні прызнаў сябе адным з дзесяці аўтараў прапагандысцкага фільма, што хаваўся пад псеўданімам Аляксандр В'югін, спрабаваў усё ж такі прыводзіць нейкія аргументы пры дапамозе... тлумачальнага слоўніка Даля. Зімоўскі зачытаў са слоўніка тлумачэнне слова "молодчик", а таксама ўзгадаў праграму АГП, дзе сказана, што партыя выступае за прыватызацыю (?!). Не згубіўся ў адказ і яго апанент Анатоль Лябедзька, які з "шырокіх штанін" дастаў у судзе... слоўнік Ожэгава, дзе даецца зусім іншае тлумачэнне гэтаму слову.

Дуэль на слоўніках у судзе завяршылася, як і чакалася, на карысць "тэлежартаўнікоў" Зімоўскага і кампаніі: без усялякай матывацыі суд Першамайскага суда г.Мінска ў іску Анатолю Лябедзьку вырашыў адмовіць. Сам Лябедзька лічыць такое рашэнне суддзі Анатоля Аніскевіча несправядлівым і збіраецца абскардзіць яго ў Мінскім гарадскім судзе. *"Некаторыя дакументы, якія разглядаў суд, зневажаюць яго,* — дадаў А.Лябедзька. — *Напрыклад, чаго каштуе папера, якую даслаў у суд намеснік старшыні Першага тэлеканала Аляксандр Мартыненка і ў якой гаворыцца, што Першы нацыянальны тэлеканал не ведае, хто гэтыя дзесяць аўтараў фільма "Дорога в никуда", яны не з'яўляюцца штатнымі супрацоўнікамі БТ, з імі не заключалася ніякіх дамоў? Мартыненка відавочна "косіць пад дурня", чым натуральна зневажае суд. Але суд усё гэта тым не менш разглядае... Я лічу, што сапраўдныя суддзі ў нас хутка могуць проста вымерці, як маманты..."*

**Алесь СІЛІЧ.**

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

*Павел КАДЫШАЎ:*

# «Справа Міхайлава знаходзіцца на кантролі ў Міністэрстве ўнутраных спраў...»

*Як ужо паведамляла "Народная воля", напрыканцы ліпеня ў Мінску абрабавалі кватэру рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, доктара філасофскіх навук, прафесара* ***Анатоля Міхайлава.***

*Ці знайшлі злачынцаў? Пра гэта журналіст запыталася ў следчага Цэнтральнага РУУС Мінска Паўла Кадышава, які займаецца справай Міхайлава.*

— Нешта канкрэтнае па справе №04011091695 я змагу сказаць, напэўна, толькі пасля завяршэння расследавання, якое запланавана на 6 верасня, — гаворыць Павел Аляксандравіч. — Але тэрміны расследавання могуць быць і працягнуты...

На мой погляд, гэта звычайны крадзеж. За апошні час у Цэнтральным раёне Мінска абрабаваны чатыры кватэры. Амаль усе адным спосабам: злодзеяў не спыняюць добрыя замкі і жалезныя дзверы, яны пранікаюць у чужыя кватэры пры дапамозе падбору ключа ці адмычкі. Згодна з данымі экспертызы, замок кватэры Міхайлавых таксама быў адчынены, верагодна, адмычкай. Ва ўсялякім выпадку, спецыялісты не знайшлі на замку слядоў ўздзеяння пабочных прадметаў.

**— А адбіткі пальцаў ёсць?**

— Акрамя адбіткаў пальцаў гаспадароў, выяўлены яшчэ чыісьці. Аднак цалкам верагодна, што яны належаць самому Міхайлаву. На жаль, пакуль мы не можам гаварыць аб гэтым дакладна: прафесар дагэтуль знаходзіцца ў Амерыцы. Калі вернецца — невядома.

**— Існуе меркаванне, што большасць кватэрных крадзяжоў раскрыць не ўдаецца...**

— Цяжка сказаць адназначна. Здараецца, што адны крадзяжы раскрываюцца адразу, а другія — гадоў праз пяць-сем... Усё залежыць ад канкрэтнай сітуацыі.

Справа знаходзіцца на кантролі ў Міністэрстве ўнутраных спраў. Мы кожны дзень робім справаздачу пра тое, што зроблена. На жаль, больш я вам нічога не паведамлю: тайна следства. Магу запэўніць, што ўсе магчымыя следчыя дзеянні з нашага боку будуць выкананы.

***Для даведкі:*** *як паведамілі "Народнай волі" ў прэс-службе Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама, з пачатку гэтага года па ўчарашні дзень у Мінску было здзейснена 1694 крадзяжы.*

*917 з іх раскрыты "па гарачых слядах", 125 — на працягу года.*

*Таксама раскрыта 212 крадзяжоў, зарэгістраваных у мінулыя гады. Такім чынам, у гэтым годзе раскрыта 62,2 працэнты кватэрных крадзяжоў. За аналагічны перыяд мінулага года было раскрыта менш за 40 працэнтаў.*



### Як гэта было?

Пра тое, што ў доме пабывалі бандыты, Міхайлавы даведаліся не адразу: некалькі месяцаў прафесар разам з сям'ёй знаходзіўся на стажыроўцы ў Амерыцы. Пра рабаўніцтва па тэлефоне паведамілі суседзі, якім Міхайлавы пакідалі ключы. Жонка Анатоля Міхайлава тэрмінова прыляцела ў Мінск.

*"Скралі залатыя ўпрыгажэнні і французскі ордэн "Акадэмічныя пальмы", рыцарам якога з'яўляецца мой муж,* — гаворыць Людміла Міхайлава. — *Зніклі таксама некаторыя візітоўкі, выразкі з газет, пасведчанне аб нараджэнні і некаторыя іншыя дакументы... Больш за ўсё шкада ордэна. У нас засталося толькі фота, якое я перадала следчым, і прэс-рэліз пра тое, што ордэн сапраўды належыць Міхайлаву.*

*На адной з кніжных паліц, на адкрытым месцы, ляжала даволі вялікая сума беларускіх грошай. Але грошы не ўзялі. Чамусьці не зацікавілі злодзеяў таксама ключы ад гаража, дзе стаіць машына... Мне падаецца, што гэта не проста крадзеж..."*

Людміла Міхайлава не верыць, што злачынцы будуць знойдзены. *"Шчыра кажучы, на раскрыццё гэтай справы я не спадзяюся..."* — гаворыць яна.

**Марына КОКТЫШ.**

**КАДРЫ**

# Где же Вы теперь, Анатолий Тютюнов?

*Как уже сообщала "Народная воля", 29 июля А.Лукашенко освободил от занимаемой должности заместителя премьер-министра Беларуси* ***Анатолия Тютюнова.*** *Его вместе с экс-председателем концерна "Беллесбумпром"* ***Федором Курсом*** *обвинили "в невыполнении поручения президента о вводе в эксплуатацию к 7 ноября 2003 года второй очереди целлюлозного завода ОАО "Светлогорский целлюлозно-картонный комбинат".*

*"Народная воля" попыталась выяснить, чем сегодня занимается опытный хозяйственник, бывший вице-премьер.*

Напомним, что в правительство Анатолий Тютюнов пришел с должности президента ОАО "Керамин". Когда назначение состоялось, многие спрашивали Анатолия Дмитриевича: сможете ли вы поднять страну по тому же сценарию, по которому подняли завод "Керамин" — на то время одно из редких неубыточных предприятий строительной промышленности Беларуси? В ответ Тютюнов лишь загадочно улыбался и разводил руками...

Пару лет назад А.Лукашенко ставил Тютюнова в пример. Выступая в Палате представителей по поводу "Керамина" и его директора, он сказал: *"В какую губернию России ни придешь — везде плитка. Чья? Да итальянская, отвечают. Не может быть, говорю, это наша, кераминовская. Проверяют: точно. Оказывается, можем делать не хуже, чем другие. Так идите — учитесь все те, кто сегодня плачет, что нельзя работать. Что, директору этого предприятия легче? Да ему в десять раз труднее, потому что он показал, на что способен, и, наверное, не рад, что показал. Теперь его рассматривают через увеличительное стекло".* Сам Анатолий Дмитриевич никогда не говорил, тяжело ли ему находиться "за стеклом". Надо заметить, что он вообще избегал острых вопросов и публичных выступлений. Уже будучи вице-премьером, Тютюнов согласился дать интервью "Народной воле". Увидев список вопросов, передумал: мол, слишком резкие...

Депутат Верховного Совета Беларуси 12-го созыва **Василий Шлындиков** называет Тютюнова осторожным человеком.

*"Я когда-то даже приложил руку к его назначению директором "Керамина",* — вспоминает Василий Михайлович. — *Он тогда был директором кирпичного завода, а я работал в обкоме партии и вел в том числе и эту отрасль. Я рекомендовал его как нормального, добросовестного человека. Считаю его крепким хозяйственником. В то же время Тютюнов весьма осторожный человек. Например, он никогда открыто не выступал против политики Лукашенко. Хотя я точно знаю, что Анатолий Дмитриевич категорически не приемлет экономическую политику, которую проводит нынешняя власть. Он — за рыночную экономику.*

*Почему Тютюнов все-таки согласился стать вице-премьером? В здоровом смысле он, как и любой мужчина, довольно амбициозен. Я так думаю, что у него, как и у многих директоров предприятий, не было выбора... Он ведь прекрасно понимал, что ему придется поддерживать весь этот экономический бред...*

*Тютюнов вряд ли занимался подковерными интригами. Он исправно работал до тех пор, пока не выгнали. Теперь, вероятно, начнет все с нуля..."*

Судя по всему, сейчас Анатолий Дмитриевич наслаждается жизнью. Как говорит его жена, занимается, чем хочет.

*"А больше ничего я вам сказать не могу,* — сказала Елена Михайловна. — *Больше никаких комментариев. Он не просит никого, чтобы о нем писали..."*

А может, Анатолий Дмитриевич просто ждет, пока его снова призовут во власть? А сейчас проходит так называемый *чиновничий карантин*: период, когда каждое сказанное им слово отслеживается, а затем может быть использовано против него самого?..

Может, мы еще услышим о Тютюнове-министре?..

**Марина КОКТЫШ.**



*Досье*
**Тютюнов Анатолий Дмитриевич**

*Родился 21 сентября 1949 года в деревне Беленево Сенненского района.*

*Окончил Воронежский инженерно-строительный институт.*

*В 1973—1986 годах инженер, главный энергетик, главный инженер, директор кирпичного завода (Минск).*

*В 1986—1994 годах генеральный директор объединения "Минскстройматериалы".*

*С июня 1994 года президент ОАО "Керамин" (Минск).*

*В 1995—1996 годах депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.*

*С декабря 1996 года депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, член Постоянной комиссии по вопросам экономики.*

*Президент хоккейного клуба "Минск".*

*Женат. Имеет двоих детей.*

**ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД**

# Всадник на перепутье

**Людмила ГРЯЗНОВА, кандидат экономических наук, заместитель председателя Объединенной гражданской партии**



Накануне парламентских выборов, которые должны состояться 17 октября, поднимается градус политических настроений. Безразличные обыватели, обычно не включенные в политику, без раздумий потребляющие телевизионную жвачку, волей-неволей вынуждены делать выбор среди нескольких кандидатов, в общем-то среди двух кандидатов — от власти и оппозиции.

Наш человек с трудом решает проблему выбора. Как всадник на перепутье, избиратель не знает, по какой дороге идти, к каким горизонтам двигаться. Живя в информационном хаосе, не понимая сути происходящего, растерянный от нескончаемого кризиса и не видящий никаких перспектив, он просто закрывает глаза, уходит в себя, отгораживается от мира и посылает всех подальше. Проблема выбора кажется непреодолимой. Он ничего не хочет слышать — ни о власти, ни об оппозиции.

Что ж, внутренняя иммиграция — это тоже выход для маленького человека, пытающегося сохранить самообладание в бушующей стихии. Возможно, таким образом он спасается от шизофрении и других болезней, порожденных нервным расстройством.

Но если все остальные, наделенные высшей нервной деятельностью, будут поступать, как малые дети, появится ли у страны перспектива? Семидесятилетний опыт существования богатейшей империи показал, чем все это заканчивается — крахом системы и нищетой народа. Может быть, наученные тем опытом и уроками последнего десятилетия новейшей белорусской истории, мы теперь сможем критически оценить тупиковую ситуацию и сделать правильный выбор.

В 1994 году, испугавшись номенклатурного беспредела, избиратели проголосовали за "сильную" руку, которая пообещала прекратить спекуляцию, отобрать наворованное и вернуть социальные гарантии. Но власть, не понимающая законов макроэкономики и элементарной природы частника, представляя общество в виде большого колхоза, стала поступать, как большевики в семнадцатом году. Конфискации, угрозы, аресты, проработки, публичные порки — вот основные методы нового руководства. Увидев знакомые, понятные с детства ситуации, электорат возрадовался и поддержал "сильную" руку. Но одного этого недостаточно для процветания страны. Телевизионная картинка создает лишь видимость благополучия.

В действительности запуганные директора не проявляют инициативы, отсиживаются в рабочие часы и с нервным трепетом ожидают вызовов наверх. Производство не развивается, рынки не завоевываются, продукция гонится на склад, оборудование ветшает, а пролетариат спивается... Из года в год лишь крепчает голос "всенародноизбранного" и все более униженными кажутся окружающие его ответственные и полу ответственные товарищи.

Старые социальные болезни становятся хроническими. Спекуляция — продажа государственного имущества за бесценок приближенным, распределение державных финансовых потоков по прихоти чиновников, разграбление народного имущества и распихивание его по номенклатурным карманам — как происходила, так и происходит. Время от времени народ узнает об отдельных скандалах из телевизионных новостей. Как говорится, не хлебом единым жив человек. Социальные гарантии канули в Лету. Кто-то лишился лечкомиссии, кто-то — чернобыльских "гробовых". Все потеряли льготные коммунальные платежи, и никто не получил товаров по низким конкурентным ценам. За десять лет правления нового руководства страна не сделала радикального шага к открытому рынку. Узкий круг номенклатуры под началом ведущего селекторных совещаний значат больше, чем десятки тысяч директоров и предпринимателей, действующих по рыночным законам.

Многие избиратели уже понимают, что в стране нелады, что Беларусь отстает от соседей — прибалтов, поляков и даже украинцев. По ценам и зарплатам мы выглядим бледно. Если раньше товары вывозились из страны, то сегодня приграничные районы живут за счет импортных продуктов и ширпотреба. Элементарные подсчеты семейного бюджета подсказывают обывателям, что экономика не является эффективной, если почти все доходы идут на покупку недорогой еды. Народ понимает, что рассказы телевизионных комментаторов о белорусском экономическом чуде — это лишь сказки про белого бычка.

Трудно обывателю разобраться в хитросплетениях придворных идеологов, отделить слащавую шелуху от сути. Им уже не верят, выбрасывая, как ненужный мусор, введенные "измы" новейшей идеологии. Люди просто смотрят на более удачливых соседей, на более успешный опыт ближайших государств и говорят, что нужно делать то же самое. А это значит, что пора отказаться от "сильной" руки и колхозных замашек.

Наш народ, вменяемый и благоразумный, не нуждается в окриках и проработках. Если кто-то не понимает членораздельной речи, то это не значит, что все такие же. Поставьте людей в человеческие условия, четкие законодательные рамки, не сковывающие деловую инициативу, и через десятилетие страна преобразится без какой-либо показухи.

В Беларуси немало компетентных специалистов — политиков, законодателей, чиновников, руководителей, предпринимателей, журналистов, чьи суждения важны и интересны. Но почему не видим их на экране? Неужели только один человек способен разбираться во всех проблемах? Театр одного актера в конце концов надоедает. Живая общественная жизнь мумифицируется, и зрители отворачиваются от застывшей картинки. Не получая ответов на животрепещущие вопросы, народ разбредается, теряет ориентацию, спивается и деморализуется.

Как ни набило оскомину слово "демократия", мы вынуждены снова приближаться к этой дороге, разобраться в ней и двигаться без страха. Ничего лучшего европейская цивилизация не придумала. Мы также не исключение. Нам придется осваивать разделение власти — на законодательную, исполнительную и судебную, чтобы каждая ветвь уравновешивала другую. Нам придется отказаться от монополии на средства массовой информации, как бы ни был велик соблазн диктовать собственную волю и избегать острой критики в свой адрес. В экономике придется избавиться от иллюзии, что государство всесильно и может подгонять бурлаков. Только свободные люди с частными интересами и гарантиями частной собственности способны на чудеса и на такую скорость, которая не снилась бурлакам. Демократические реформы, испытанные нашими соседями, могут быть использованы на нашей земле. Сделать такой шаг способна новая элита, которая может быть избрана 17 октября на парламентских выборах.

Многое зависит от решения избирателей, их выбора, их решимости. Пора определиться, и, не закрывая глаз, вступить на проверенную дорогу к европейскому дому с ухоженной лужайкой, навек распрощавшись с покосившейся хатой возле колхозного правления.

АЛІМПІЯДА-2004

# Тры дні: да п’едэсталу беларусы не дайшлі...

*За тры дні алімпійскіх спаборніцтваў у Афінах было разыграна 39 камплектаў узнагарод. Медалі заваявалі прадстаўнікі 37 краін. На жаль, Беларусі ў гэтым спісе па-ранейшаму няма...*

Рэальны шанц прабіцца ў фінал заплыву на 200 метраў у комплексным плаванні мела беларуская спартсменка Ганна Шчэрба. У паўфінальным заплыве Ганна паказала дзевяты час — 2 хвіліны 14,92 секунды. Ад пападання ў фінальную васьмёрку Шчэрбу аддзялілі 0,24 секунды. Між іншым, у кваліфікацыі Шчэрба была пятай. Таксама не трапіла ў фінал яшчэ адна беларуская плыўчыха — Алена Попчанка. Дарэчы, у беларускай федэрацыі плавання разлічвалі, што гэтая спартсменка заваюе медаль у сваёй любімай дысцыпліне — 200 метраў вольным стылем. Але Попчанка заняла ў паўфінале толькі 11-е месца. Яе час 1 хвіліна 59,87 секунды. У кваліфікацыі Алена паказала 12-ы вынік.

Беларускія прадстаўнікі настольнага тэніса завяршылі свае выступленні ўжо ў стартавым для іх трэцім крузе. Тацціяна Лагацкая і Вераніка Паўловіч саступілі тайваньскаму дуэту Хуа Хуан-І/Юнь Фен Лу — 3:4, перамагаючы па партыях 3:1. Таццяна Кастраміна і Вікторыя Паўловіч прайгралі італьянкам Нікалеце Стэфанавай і Веньлін Тань-Марфандзіні — 2:4.

А вось беларускія прадстаўнікі вялікага тэніса Максім Мірны і Уладзімір Ваўчкоў выйшлі ў наступны круг спаборніцтваў без барацьбы. У першым раўндзе алімпійскага тэніснага турніру беларускі дуэт павінен быў сустракацца з мараканцамі Юнэсам Аль Айнаўі і Хішамам Аразі. Але паядынак не адбыўся з-за траўмы аднаго з мараканцаў. Такім чынам, беларусы адразу выйшлі ў 1/8 фіналу, дзе іх сапернікамі стануць амерыканцы Боб і Майк Браяны. Дарэчы, гэтыя амерыканцы “пасеяны” пад першым нумарам у парным разрадзе алімпійскіх спаборніцтваў.

Яшчэ адной радаснай навіной для беларускіх аматараў спорту стала тое, што наш лучнік Антон Прылепаў выйшаў у 1/16 фіналу алімпійскага турніру. У першым раўндзе ён выйграў у алімпійскага чэмпіёна Сіднея-2000 Саймана Фэйрвэйзера — 141:137.

Таксама ўдала пераадолеў першы бар’ер беларускі баксёр Міхаіл Бярнадскі, які ў вагавай катэгорыі да 57 кілаграмаў перамог па ачках калумбійца Лікара Рамаса Кончу — 32:18.

Няўдала склалася стральба з пнеўматычнай вінтоўкі для беларуса Віталя Бубновіча. У кваліфікацыі ён заняў 24-е месца, набраўшы 590 ачкоў. Бубновіч адстаў ад васьмёркі фіналістаў на 4 ачкі.

Завяршыў свае выступленне ў Афінах бронзавы прызёр Сіднея-2000 дзюдаіст Анатоль Ларукоў. У вагавай катэгорыі да 73 кілаграмаў ён прайграў карэйцу Лі Вох Хі, а ў суцяшальным разрадзе Ларукоў саступіў амерыканцу Джэймсу Педра (*на здымку*), які стаў бронзавым прызёрам у сваёй вагавай катэгорыі.






**Вось так выглядае медальная табліца Алімпіяды-2004 па выніках трох поўных дзён:**

| | З | С | Б |
|---|---|---|---|
| Кітай | 10 | 4 | 1 |
| Аўстралія | 6 | 2 | 5 |
| Японія | 5 | 1 | 1 |
| ЗША | 3 | 5 | 5 |
| Францыя | 3 | 2 | 3 |
| Італія | 2 | 3 | 2 |
| Турцыя | 2 | 0 | 1 |
| Украіна | 2 | 0 | 1 |
| Расія | 1 | 5 | 2 |
| Венгрыя | 1 | 1 | 1 |
| Германія | 1 | 2 | 1 |
| Паўднёвая Карэя | 1 | 0 | 2 |
| Тайланд | 1 | 0 | 2 |
| Грэцыя | 1 | 0 | 1 |
| ПАР | 1 | 0 | 0 |
| Галандыя | 0 | 2 | 3 |
| Польшча | 0 | 2 | 0 |
| КНДР | 0 | 2 | 0 |
| Аўстрыя | 0 | 1 | 0 |
| Зімбабве | 0 | 1 | 0 |
| Іспанія | 0 | 1 | 0 |
| Вялікабрытанія | 0 | 1 | 0 |
| Грузія | 0 | 1 | 0 |
| Інданезія | 0 | 1 | 0 |
| Партугалія | 0 | 1 | 0 |
| Славакія | 0 | 1 | 1 |
| Сербія і Чарнагорыя | 0 | 1 | 0 |
| Бельгія | 0 | 0 | 2 |
| Балгарыя | 0 | 0 | 2 |
| Куба | 0 | 0 | 3 |
| Аргенціна | 0 | 0 | 1 |
| Манголія | 0 | 0 | 1 |
| Калумбія | 0 | 0 | 1 |
| Чэхія | 0 | 0 | 1 |
| Канада | 0 | 0 | 1 |
| Румынія | 0 | 0 | 1 |

## ТелеОлимпиада

*В эти дни внимание спортивных болельщиков во всем мире приковано к баталиям, которые проходят в олимпийских Афинах. Знакомим читателей “Народной воли” с расписанием телетрансляций Олимпиады.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| **18.08** | Велоспорт (шоссе) | 13.00—14.10 | ЛАД |
| | Стрельба пулевая | 15.15—15.55 | ЛАД |
| | Легкая атлетика, дзюдо | 16.00—18.45 | БТ |
| | Плавание, тяжелая атлетика Гимнастика спортивная | 19.30—21.00 | БТ |
| | Тяжелая атлетика Гимнастика спортивная | 21.30—22.40 | БТ |
| **19.08** | Дзюдо | 16.30—17.45 | БТ |
| | Плавание, теннис | 19.30—21.00 | БТ |
| **20.08** | Стрельба пулевая | 14.30—15.10 | ЛАД |
| | Дзюдо, велоспорт (трек) | 16.30—17.50 | БТ |
| | Плавание, легкая атлетика | 19.30—21.00 | БТ |
| | Легкая атлетика | 21.30—23.30 | БТ |
| **21.08** | Гребля академическая | 08.30—10.40 | ЛАД |
| | Легкая атлетика, плавание, тяжелая атлетика | 18.30—21.00 | БТ |
| | Тяжелая атлетика, легкая атлетика | 21.30—23.00 | БТ |
| **22.08** | Гребля академическая | 09.20—10.35 | ЛАД |
| | Стрельба пулевая | 13.30—14.10 | |
| | Легкая атлетика, гимнастика спортивная | 19.30—21.00 | БТ |
| | Легкая атлетика, гимнастика спортивная | 21.30—23.15 | БТ |
| **23.08** | Теннис настольный | 13.00—15.00 | ЛАД |
| | Велоспорт (трек) | 16.30—17.30 | БТ |
| | Легкая атлетика, гимнастика спортивная | 18.30—21.45 | БТ |
| | Легкая атлетика, гимнастика спортивная | 22.15—22.40 | БТ |
| **24.08** | Гимнастика спортивная (гала-представление) | 12.00—14.00 | ЛАД |
| | Велоспорт (трек) | 16.30—19.30 | БТ |
| | Легкая атлетика, тяжелая атлетика | 19.30—21.00 | БТ |
| | Тяжелая атлетика, легкая атлетика | 21.30—23.30 | БТ |
| **25.08** | Легкая атлетика | 19.00—21.00 | БТ |
| | Борьба греко-римская | | |
| | Легкая атлетика | 21.30—23.30 | БТ |
| **26.08** | Современное пятиборье | 17.50—19.50 | ЛАД |
| | Борьба греко-римская | | |
| | Легкая атлетика | 20.00—21.00 | БТ |
| | Легкая атлетика | 21.30—22.55 | БТ |
| **27.08** | Гребля на байдарках и каноэ | 08.30—10.30 | ЛАД |
| | Современное пятиборье | 18.00—18.40 | ЛАД |
| | Легкая атлетика | 20.00—21.00 | БТ |
| | Легкая атлетика | 21.30—22.50 | БТ |
| **28.08** | Гребля на байдарках и каноэ | 08.30—10.30 | ЛАД |
| | Футбол. Финал | 10.00—12.00 | БТ |
| | Гимнастика художественная | 16.30—17.40 | БТ |
| | Борьба вольная, бокс, легкая атлетика | 19.10—21.00 | БТ |
| | Легкая атлетика | 21.30—22.30 | БТ |
| | Баскетбол. Финал | 22.30—00.15 | ЛАД |
| **29.08** | Бокс, борьба вольная | 14.00—17.35 | БТ |
| | Гимнастика художественная | 21.15—24.00 | БТ |
| | Церемония закрытия Олимпиады | | |

АЛЁ, АФІНЫ!

## Пропускам у Алімпійскую вёску паслужылі... значкі

*Пакуль на спартыўных пляцоўках афінскай Алімпіяды атлеты змагаюцца за медалі і ўсталёўваюць новыя рэкорды, у Афінах адкрываецца беларускі дом. Вось што расказаў па тэлефоне з Афін прэс-аташэ Нацыянальнага Алімпійскага камітэта* ***Пётр РАБУХІН****:*

*“19 жніўня ў самым цэнтры Афін адбудзецца адкрыццё беларускага дома. Гэта чатырохпавярховы будынак, дзе для нашай дэлегацыі будзе адведзены адзін паверх. На гэтым паверсе ёсць гасціная, пакой для прыёму дэлегацыі, пакой для адпачынку, пакой для правядзення прэс-канферэнцый...”*

Што тычыцца харчавання і пражывання беларускіх спартсменаў, то Пётр Рабухін запэўніў, што праблем ніякіх няма: *“На выбар кожнага спартсмена — разнастайнае меню: ад азіяцкай кухні да італьянскай піцы. Зразумела, што прысутнічаюць у меню і стравы еўрапейскай кухні”.*

Беларускія спартсмены жывуць у Алімпійскай вёсцы, а яшчэ адна частка беларускай дэлегацыі жыве на караблі. Праўда, як зазначае прэс-аташэ Нацыянальнага Алімпійскага камітэта, “мае заганы” сістэма бяспекі: “Адзін з гасцей нашай каманды два дні запар праходзіў праз Алімпійскую вёску цераз другі выхад, хаця фармальна не меў на гэта права. Пропускам абодва разы служылі значкі, якія ён дарыў службе аховы”, — расказаў Пётр Рабухін. А вось на караблі, дзе пражывае сам Рабухін, распрацавана трайная сістэма бяспекі. *“Ніхто, акрамя жыхароў карабля, не можа сюды прайсці, нават шэфа місіі не пусцілі”,* — паведаміў прэс-аташэ.

БЛІЦ-АПЫТАННЕ

## Хварэем за нашых! А што нам застаецца?..

*Пасля трох поўных дзён Алімпіяды ў Грэцыі, напэўна, можна падвесці нейкія вынікі і падзяліцца сваімі ўражаннямі ад спаборніцтваў. “Народная воля” прапанавала зрабіць гэта вядомым у свеце спорту людзям:*

***Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ (трохразовы алімпійскі чэмпіён па веславанні):***

— Алімпіяда — вельмі сур’ёзныя спаборніцтвы, якія адрозніваюцца ад усіх астатніх. На Алімпіядзе трэба быць гатовым да больш сур’ёзных вынікаў і больш жорсткай канкурэнтнай барацьбы. Шкада, што па выніках трох дзён беларусы саступаюць, і нават тыя медалі, якія планаваліся, не заваяваны. Банальна гучыць, але надзея заўжды памірае апошняй. Праўда, на 25 алімпійскіх медалёў спадзявацца ўжо не прыходзіцца. Яшчэ раз паўтаруся: Алімпіяда — гэта асабліва сур’ёзныя спаборніцтвы, дзе галоўнае не гаварыць, а рабіць.

***Уладзімір ДАЎЖЭНКА (спартыўны журналіст):***

— Мяне не задавальняе на гэтай Алімпіядзе аб’ём вяшчання з Афін. Хоць і гавораць пра ўсебаковасць паказу алімпійскіх гульняў, але, напрыклад, тэлеканал “Лад” ідзе далёка не ва ўсіх... Шкада, што дзённікі Алімпіяды атрымліваюцца ў нашых тэлевізіёншчыкаў нейкія аднабокія, чыста беларускага накірунку. Шкада, што не надаецца належнай увагі гульнявым відам спорту. Я разумею, што беларусы ў іх не прадстаўлены, але тым не менш ёсць жа сусветны футбол, баскетбол, воднае пола — гэта вельмі цікава.

Што тычыцца выступлення беларусаў па выніках трох дзён, то перажываць не варта. Гісторыя ведае такі выпадак, калі першыя беларускія медалі з’явіліся толькі праз тыдзень пасля пачатку спаборніцтваў. Нешта яшчэ будзе, але 25 медалёў мы, канешне, ужо не атрымаем... Алімпійскія старты — гэта абсалютна іншы якасны ўзровень. Тая ж Алена Попчанка, чэмпіёнка свету 2003 года, не паказала таго, чаго ад яе чакалі. Алімпіяда ёсць Алімпіяда.

***Альберт СКАРАХОД (кампазітар, спявак, капітан футбольнай каманды зорак беларускай эстрады «Арт-Старз»):***

— Тое, што беларусы выступаюць на Алімпіядзе, — ужо добра. Хацелася б, каб як мага хутчэй пайшоў “медальны” адлік беларускай зборнай. А прыкладу першага прызёра Алімпійскіх гульняў у Афінах паследуюць і іншыя, я ў гэтым проста ўпэўнены. Ёсць такое выслоўе: “Добра пачынаеш — дрэнна заканчваеш”. Хочацца, каб з беларускімі алімпійцамі ўсё было наадварот.

***Сюзанна ІВАНКОВА (інструктар фітнес-клуба «Зорны», жонка Івана ІВАНКОВА):***

— Ведаеце, у мяне даволі крытычнае стаўленне да Алімпіяды. На маю думку, людзі самі стварылі з гэтага культ. І зараз пад гэта падстройваюцца. Проста з гэтым трэба мірыцца. Я была гатовая да таго, што ў нашых суайчыннікаў не ўсё будзе так гладка. І калі мне гаварылі пра 25 медалёў, у мяне гэта выклікала смех. Я не чакаю столькі медалёў, але, калі яны ўсё ж такі будуць, я буду вельмі рада. Так што хварэем далей, а што нам застаецца?...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Дойчэшакалад з калгаснай пуні

Усцяж вёскі Мухіна пралягаў гравельны шлях, па ім у тую восень 41-га некалькі дзён пылілі матацыклы, танкі, крытыя грузавікі з ударных нямецкіх груповак, што рваліся на ўсход. Зрэдку пара матацыклаў збочвала ў вёску, салдаты ў шэрых плашчах збіралі па хатах яйкі, сала і даганялі сваіх. А потым, недзе тыдняў праз два, у вёску наехалі тылавікі-абознікі — і за некалькі дзён выразалі ўсіх кароў, свіней, авечак, палавілі курэй на падворках.

У мухінскіх жыхароў акрамя бульбы ды цукровых буракоў (з іх жанчыны гналі нядрэнны самагон — ад ліхога госця) нічога не засталося на пражыццё, бо малаціць сяк-так убраную збажыну не было каму: мужчыны пайшлі ваяваць. Вяскоўцы галадалі, асабліва пакутавалі дзеці.

Аднойчы сярод дня ў вёску завярнулі тры крытыя тупарылыя грузавікі, спыніліся каля калгаснай пуні, дзе раней захоўвалася збажына. Немцы сталі выгружаць драўляныя скрынкі і складваць іх у штабелі ў пуні. Калі выгрузка скончылася, ля варотаў паставілі двух салдатаў гадоў за сорак, з вінтоўкамі. Яны па чарзе неслі варту.

Вясковаму хлапчуку Уладзіміру Мурашову, якому было гадоў трынаццаць, карцела даведацца, што там такое ахоўваюць немцы. Падгаварыў двух сябрукоў свайго ўзросту, і яны прыцемкамі, зрабіўшы ў сцяне, сплеценай з арэхавых прутоў і абмазанай глінай, лаз, праніклі ў пуню. Адкрылі адну скрыню — і ахнулі ад радасці: там былі шакаладныя цукеркі! Іх ніхто з хлопцаў да вайны не бачыў, зрэдку маці з горада прывозіла падушачкі-карамелькі. А тут столькі ласункаў! Сталі каштаваць, наеліся, як кажуць,. ад пуза. Адкрылі яшчэ адну скрынку, а там — пліткі шакаладу! У 41-м годзе вермахт добра-такі падкормліваў сваіх салдат, балазе амаль уся акупаваная Германіяй Еўропа працавала на яе.

Хлапчукі-налётчыкі пакаштавалі і плітачнага шакаладу, а скрынак пяць вынеслі праз лес і схавалі паблізу ў рове, у густым кустоўі. Прынеслі і дамоў некалькі плітак, сваім маці сказалі, што гэта іх салдаты пачаставалі. А самі праз некалькі дзён паўтарылі вылазку. І — папаліся, бо вартавы пачуў валтузню ў пуні, адчыніў вароты і крыкнуў “хальт!”. Ад наведзенага ва ўпор карабіна ў хлапцоў перахапіла дыханне. Немец, падышоўшы бліжэй, загадаў хлапчукам... есці шакалад:

— Эссэн, эссэн! Шнэль!

Хлапчукі на пальцах сталі тлумачыць яму, што гэтая смаката ім болей не лезе у рот і нават паляпвалі рукамі па жыватах, але немец заставаўся няўмольным, пакуль налётчыкі са слязьмі на вачах не сталі на каленях прасіць літасці. Вартавы памякчэў і пацікавіўся, ці ёсць у іх дома самагонка (гэтае слова ён вымавіў па-руску). Уладзік адказаў: ёсць! Немец пакінуў двух яго сябрукоў у якасці закладнікаў, з умовай, што Уладзік вернецца са шнапсам. Маці мела некалькі пляшак у запасе, адну перадала сыну, калі той паведаў пра свае прыгоды. Немец, убачыўшы бутэльку з напоем, павесялеў, дастаў з сумкі складную пластмасавую шкляначку, напоўніў і прапанаваў кожнаму з палоннікаў паспрабаваць. Яшчэ ні разу ў сваім жыцці не рабілі гэтага, але тут была нявыкрутка. Пасля немец наліў і сабе, адрэзаў скібку шэрага, у цэлафане, хлеба, намазаў маслам, паклаў зверху лусту плаўленага сыру, выпіў і закусіў. Паўтарыў “прычашчэнне” і, раздабрэўшы, адрэзаў кожнаму па кавалку хлеба, даў па дзве пліткі шакаладу і адпусціў, нагадаўшы, што яго напарнік, які ў той час спаў у закутку, таксама хоча выпіць, маўляў — нясіце і яму.

Маці Уладзіка не ўстрымалася, паведала аб хлапчуковым “бартэры” суседкам, і тыя з бутэлькамі самагону зачасцілі ў пуню, вяртаючыся з атрыманымі ў абмен пліткамі шакаладу і пачкамі пячэння. Свой запас хлапчукі пастараліся перанесці ноччу з рову дамоў.

Нарэшце, нечаканы для вяскоўцаў бартэр з вартавымі скончыўся, калі да пуні зноў пад’ехалі тры грузавікі і салдаты перанеслі скрынкі ў кузавы, забраўшы з сабой двух вартавых. Фронт па тым часе прасунуўся далей на ўсход, і машыны спяшаліся за ім.

Уладзік першы зазірнуў у пуню і выявіў у дальнім кутку, за кучай саломы, штук восем незабраных скрынак з шакаладам і пячэннем. Даведаўшыся аб гэтым, вясковыя жанчыны кінуліся дзяліць трафеі. Болей даставалася тым сем’ям, дзе ў хаце было па трое—пяцёра дзяцей.

Толькі ненадоўга хапіла тых, пакінутых немцамі прыпасаў. Неўзабаве вёска была спалена мядзярамі, ацалела толькі пуня. А людзі, пазбаўленыя даху на галавой, мусілі ісці ў лясы, да партызанаў — да прыходу Чырвонай Арміі.

...Гісторыю гэту мне расказаў Уладзімір Кірылавіч Мурашоў, жыхар Слуцка. У свае семдзесят шэсць ён усё перажытае ў тыя ваенныя гады памятае да драбніц.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
*г. Слуцк.*

# «Пайшло слова Тарасова горда, непакорна...»

*Пад такім дэвізам у Літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстава, прысвечаная 190-годдзю вялікага ўкраінскага Кабзара і прымеркаваная да Дня Незалежнасці нашай суседкі Украіны*

Партрэтамі двух геніяў сваіх родных і сусветнай літаратур — Тараса Шаўчэнкі і Янкі Купалы — сустракае гасцей музея гэтая цікавейшая выстава. Кожны яе экспанат — даўнія і сучасныя кніжныя выданні, гістарычныя фотаздымкі, дакументальныя сведчанні і выказванні вядомых асоб, творы мастацтва — перакануча гавораць аб глыбінных каранях роднасці двух славянскіх народаў у іх спрадвечным памкненні да долі і волі, шчасця жыць незалежна, па-чалавечы годна і ганарыцца сваёй Радзімай.

Менавіта гэтае памкненне, горды дух вольнасці і бязмежнай любові да Бацькаўшчыны з’яднаў аддзеленых у часе і прасторы несмяротных песняроў Беларусі і Украіны. Для нас яны заўжды стаяць побач — блізкія і родныя, неадлучныя ў нашай душы. І юбілейная дата 190-годдзя з дня народзінаў украінскага Кабзара сталася святам для беларусаў і годна, прыгожа адзначалася ў Купалавым доме ў цэнтры Мінска.

Аб гэтым усхвалявана і шчыра гаварылі ўдзельнікі імпрэзы ў музеі з “абодвух бакоў”. Слухаючы ўзнёслыя словы пасла Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Пятра Шапавала і гаспадароў сустрэчы, сярод якіх былі, акрамя супрацоўнікаў музея, зназныя беларускія паэты Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Васіль Жуковіч, навуковец Вячаслаў Рагойша і іншыя, убіраючы ў сэрца даўно знаёмыя і любімыя паэтычныя радкі Шаўчэнкі і Купалы, спяваючы разам з гуртом беларускіх украінцаў цудоўныя песні брацкага народа, немагчыма было не паўтараць услед за беларускім Песняром напісанае ў яго хрэстаматыйнай паэме “Тарасова доля”:

*Чаму ў сэрцы беларускім*
*Песня Тарасова*
*Адгукнулася, запела*
*Зразумелым словам?*

*Бо йшла доля беларуса*
*З доляй украінца*
*Аднальквова — ў поце, слёзах*
*Церневым гасцінцам...*

Дарэчы, беларускімі дарогамі-гасцінцамі не раз праязджаў у свой час у розныя гады — падлеткам і сталым чалавекам — украінскі Кабзар. І яны калыхалі яго думы, натхнялі на паэтычны лад... Гэтыя дарогі і сёння — дарогі прыязнасці, дружбы і любові двух народаў, якія, набыўшы каштоўны дар — дзяржаўную незалежнасць, атрымалі куды большую, чым раней, магчымасць непасрэдна ладзіць і ўмацоўваць сяброўскія, братнія сувязі па ўсіх накірунках дзеля лепшай будучыні Беларусі і Украіны.

Між іншым, экспануемая ў Купалавым доме выстава пабывала крыху раней у гасцях на зямлі Кабзара — у Кіеве, у Палацы Тараса Шаўчэнкі.

— Прымалі нас там як родных, з сардэчнай цеплынёй і ўдзячнасцю, — згадваюць музейшчыкі-купалаўцы. — І ўсе захапляліся прыгажосцю нашай мовы, прасілі размаўляць выключна на ёй, без перакладу.

Мова духоўнай блізкасці і любові перакладу і не патрабуе. Прыемна, што на імпрэзе на добрай беларускай мове прамаўляў і намеснік міністра культуры Беларусі Валеры Гедройц. Ды праўда — балючая праўда — не дае спакою: такіх астраўкоў, дзе беларускае слова пачуваецца ў пашане і любасці, у беларускай сталіцы па пальцах можна пералічыць. Такі сумны вынік дзяржаўнай антыбеларускай палітыкі. Бо дзе ж яшчэ такое магчыма: у цэнтры Мінска, ля самага ганка Купалавага дома пасля ўрачыстасці давялося пачуць ад нейкай “дамы”, што тапталася па свежым газоне з кветкамі:

— А вы идите, идите скорей отсюда со своей быдлячей мовай, слышать ее не могу!

Не хапае на яе Купалы з яго вершам “Чаго ж вам хочацца, панове...”, не хапае Шаўчэнкі з яго неўміручым словам. Але пра **такіх** народных пракрокаў дамачка “а-ля рюсс”, пэўна, і не ведае, для яе тут — тэрыторыя “абарыгенаў”. Шкада няшчасную: горда, непакорна — паўз яе — ідзе і пройдзе ў вечнасць створанае Богам нязводнае слова беларускай і ўкраінскай зямлі.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Герхард Шредер удочерил трехлетнюю россиянку

Канцлер Германии Герхард Шредер удочерил трехлетнюю девочку из России, сообщает германская газета Sueddeutsche Zeitung. 60-летний Шредер и его четвертая жена Дорис Шредер-Кепф удочерили трехлетнюю Викторию, которая несколько месяцев прожила в российском детском доме. Как сообщает газета, Виктория уже несколько недель живет в доме Шредеров в Ганновере. Помимо нее Герхард Шредер воспитывает Клару, 13-летнюю дочь его нынешней супруги Дорис Шредер-Кепф. Кроме того у третьей жены Шредера также есть две дочери.

## Слова Папы Римского истолковали как прощание с жизнью

Здоровье Папы Римского Иоанна Павла II в последнее время серьезно ухудшилось и, возможно, его поездка во Францию была для него последней. Как сообщает агентство Рейтер, об этом заявил бельгийский кардинал Годфрид Даннелс, которого считают наиболее вероятным наследником Святого Престола. В минувшие выходные глава Римско-католической церкви посетил город Лурд на юге Франции, где, как утверждают, в 1858 году перед крестьянской девочкой явилась Дева Мария. По словам кардинала, Папа якобы сказал: “Я завершаю здесь свое паломничество”. По версии Даннелса, эти слова можно было истолковать двояко — и как прощание с Лурдом, и как признание, что его жизнь подходит к концу.

Слова Папы часто бывает трудно разобрать, он больше не ходит пешком, и его перевозят в специальном кресле. В воскресенье Иоанн Павел II служил мессу на открытом поле, на котором собралось почти 200 тысяч человек. Его голос иногда становился еле слышным. А в субботу он едва не упал, когда преклонял колени перед святилищем Богоматери.

Папе исполнилось уже 84 года, он страдает артритом и болезнью Паркинсона.

## Директора украинского издательского дома уличили в работорговле

В Украине пресечена деятельность преступной группы, занимавшейся торговлей людьми. Задержанные обвиняются в вывозе четырех жительниц Хмельницкой области для сексуальной эксплуатации в Чехию. Как сообщили в Департаменте связей с общественностью МВД Украины, в рамках спецоперации в городе Хмельницкий были задержаны директор издательского дома, пенсионер (оба — жители Киева), а также безработная жительница Хмельницкой области. По данным оперативников, за каждую проданную женщину преступники получали тысячу евро. У задержанных изъяты документы для выезда за границу еще трех жительниц Хмельницкой области. Против членов преступной группы возбуждено уголовное дело по статье 149, части 3 Уголовного кодекса Украины (торговля людьми).

## Буш пообещал вывести из Европы и Азии более 60 тысяч военных

Президент США Джордж Буш объявил о глобальном перераспределении американских войск с целью создать “более подвижные и гибкие вооруженные силы”. Буш сообщил, что в течение ближайших 10 лет от 60 до 70 тысяч военнослужащих США, находящихся за пределами страны, будут переведены в США. Вместе с ними вернутся около 100 тысяч членов их семей и гражданских специалистов. “Мир изменился, и наши стратегические позиции также должны измениться”, — заявил Буш. Представители Пентагона сообщили журналистам, что большая часть военных будет выведена из европейских стран, остальные — из стран Азии.

## США и Россия заставили Швейцарию закрыть дело Абрамовича

Швейцарские следователи прекратили расследование деятельности губернатора Чукотки Романа Абрамовича, которого подозревали в причастности к неправомерному использованию займа в 4,8 миллиарда долларов, предоставленному России Международным валютным фондом. В статье, перевод которой опубликован на сайте “Инопресса”, говорится, что Россия и США отказались сотрудничать со Швейцарией в расследовании данного дела. Женевский судья Марк Тапполе заявил журналистам, что Москва и Вашингтон игнорировали его неоднократные просьбы о помощи и даже не ответили на официальные запросы о юридической поддержке, которые делались по дипломатическим каналам.

Между тем швейцарский судья Лоран Каспер-Ансермет, начавший расследование дела о займе, подвергся нападению во время поездки в Россию. Газета утверждает, что в Петербурге он “был избит до бессознательного состояния”. По мнению швейцарцев, с 1995 года Россия начала создавать за рубежом некие секретные финансовые резервы, используя при этом систему “банков-корреспондентов”.

В связи с этим в Женеве высказывалось предположение о том, что компания “Руником” (торговое подразделение принадлежащей Абрамовичу нефтяной компании “Сибнефть”) была одним из контролеров этой сети. “Доступ к так называемым "черным кассам" имел ограниченный круг людей, около ста человек, близких к президенту Ельцину, в том числе политические лидеры, ведущие промышленники, директора частных и государственных банков", — утверждал один из швейцарских следователей в своем отчете в 2000 году. Этот же следователь подозревал, что “Руником” управляла этими “черными кассами”.

ЛЮБОПЫТНО

## Над Мельбурном нависла угроза вторжения муравьев

Над Мельбурном нависла угроза вторжения, напоминающая фильм ужасов. На город движется гигантская колонна муравьев длиной 60 миль (около 100 километров). Насекомые не вредят людям, но они нарушают экологическое равновесие и убивают цыплят на фермах. Исследователи из университета Монаш утверждают, что причиной возникновения суперколонии насекомых, попавших в Австралию в 1930 году из Южной Америки, стала генетическая мутация, “в результате которой муравьи перестали воевать между собой”. Из-за этого насекомые необычайно размножились и теперь угрожают одному из крупнейших городов Австралии.

## Западные и восточные немцы ссорятся из-за голого тела

Западная и Восточная Германии вступают в конфликт на пляжах Балтийского побережья. Граждане бывшей ГДР традиционно предпочитают купаться и загорать на Балтийском побережье восточной Германии в чем мать родила. Теперь же нудисты из восточных земель могут лишиться такой возможности. Движение нудистов, называющееся “Культура свободного тела”, не по нраву западногерманским туристам, которые являются серьезным источником дохода туристических агентств и городских властей. Граждане бывшей ФРГ не хотят видеть вокруг себя голые тела. “Это не каждому по вкусу, и далеко не всегда приятное зрелище”, — говорят они и требуют от властей прибрежных городов выделить для приверженцев нудизма специальные зоны в наименее посещаемых местах пляжа.

РЕЦЕПТ

# Ни дня без соков



Наибольший лечебно-профилактический эффект оказывают свежие соки, не подвергавшиеся термической обработке, так как при кипячении лечебная ценность соков значительно уменьшается. Однако надо помнить, что сырые соки быстро портятся, поэтому их надо употреблять сразу же после приготовления.

По характеру воздействия на организм соки можно разделить на несколько групп:

**мочегонные** — виноградный, морковный, клубничный, арбузный, абрикосовый, грушевый, сок сельдерея;

**противовоспалительные, противоглистные и антисептические** — яблочный, чесночный, луковый, сок хрена;

**сокогонные** — капустный, морковный, сок красной свеклы и хрена;

**дезинфицирующие и усиливающие окислительные процессы** — капустный и сок красного перца;

**понижающие кровяное давление** — томатный, сок лимона, свеклы, калины;

**тонизирующие** — персиковый, виноградный, клубничный, абрикосовый, томатный, черничный.

**Сок капусты белокочанной** применяется при лечении заболеваний сердца, почек, нарушениях водно-солевого обмена, благоприятно действует при язвенном процессе слизистой оболочки желудка, полезен при геморрое, заболеваниях дыхательных путей, селезенки, печени, показан при бессоннице, экземе, диатезе. Принимать по 1 стакану с 1 ст. ложкой меда 2 раза в день — натощак утром и на ночь.

**Сок свеклы** применяется при лечении заболеваний печени, желчного пузыря, почек, при ожирении, гипертонии, ишемической болезни сердца, запорах, обладает легким слабительным и мочегонным свойством. Принимать по 0,5—1 стакану с 1 ст. ложкой меда 2—3 раза в день до еды.

**Картофельный сок** играет большую роль в нормализации водного обмена и поддержании нормальной работы сердца. Он также применяется при язвенной болезни желудка и двенадцатиперстной кишки. При систематическом приеме сока исчезают боли, отрыжка, изжога, тошнота, снижается кислотность желудка. Отжимать в сентябре-октябре из клубней. Принимать по 1 стакану с 1 ст. ложкой меда 2 раза в день — натощак утром и на ночь через 2—3 часа после ужина.

**Морковный сок** назначается больным с авитаминозом А, для активизации внутриклеточных окислительно-восстановительных процессов, используется при малокровии и гастритах с пониженной кислотностью желудочного сока. Он способствует быстрому заживлению ран, показан при инфаркте миокарда, а также кормящим матерям для увеличения лактации. Применение морковного сока противопоказано при обострении язвенной болезни и энтеритах. Принимать по 0,5—1 стакану с 1 ст. ложкой меда 2—3 раза в день до или после еды.

**Огурцы** — естественное мочегонное средство. Огуречный сок укрепляет ногти и волосы, предотвращает расщепление и выпадение волос. Он также усиливает перистальтику кишечника, содействует выведению холестерина. Принимают огуречный сок по 1 стакану с 1 ст. ложкой меда 2—3 раза в день до еды. Смесь соков моркови, свеклы и огурцов широко применяется при почечно- и желчнокаменной болезнях.

**Яблочный сок** применяется для поднятия сопротивляемости организма и для утоления жажды, является тонизирующим средством при сердечно-сосудистых заболеваниях. Отжимать в сентябре-октябре из созревших ароматных плодов.

**Виноградный сок** способствует снижению уровня холестерина, облегчает отхаркивание, улучшает обменные процессы в организме и в сердце, оказывает положительное воздействие на эндокринные железы, повышает качество материнского молока.

**Апельсиновый сок** хорошо утоляет жажду, является эффективным средством профилактики и лечения гиповитаминозов, помогает быстрее восстановить силы в послеоперационный период, во время инфекционных заболеваний и в период выздоровления. Применяется также при гипертонии и атеросклерозе.

**Наталья СМЕТАНИНА.**

# Луч надежды

*До недавнего времени стоматология считалась одной из самых консервативных медицинских наук. Однако за последние 10 лет отмечается невиданный прорыв в этой области. Появление качественно новых технологий во всех отраслях стоматологии изменило отношение к лечению и профилактике заболеваний зубов со стороны не только специалистов, но и населения.*

*Мы продолжаем разговор о новых технологиях в стоматологии с заведующей стоматологическим отделением медицинского центра "Экомедсервис"* ***Еленой Константиновной ТРОФИМОВОЙ.***

— Одним из достижений сегодняшней стоматологии являются лазерные технологии. Хотя в медицине они начали использоваться довольно давно — с 60-х годов прошлого века, на сегодняшний день они претерпели значительные изменения и усовершенствования. В первую очередь это касается возможности применения лазера не только на мягких тканях, но и на твердых, в частности, на твердых тканях зуба.

**— Можно ли сказать, что мечта заменить бор-машину лазером осуществилась?**

— Практически так оно и есть. Созданы аппараты, которые позволяют составить достойную конкуренцию традиционной бор-машине. Например, один из таких аппаратов — последняя разработка немецкой фирмы "KaVo", которую мы используем в нашей работе. Правда, это не значит, что лазер может полностью заменить бор-машину. Есть целый спектр манипуляций, которые делаются традиционно. Например, бор-машиной снимается старая пломба, обеспечивается доступ к корневому каналу, удаляется нерв, традиционно чистятся корневые каналы (правда, и это мы делаем при помощи новых технологий, гибких инструментов), а вот специально обработать канал и убить микрофлору — это уже делает лазерный луч.

**— Новые технологии, видимо, требуют от врачей новых навыков?**

— Работа с лазером — это совершенно другие ощущения, другая методика работы. Она не может быть освоена без специального обучения. Поэтому прежде чем отважиться на приобретение лазерного аппарата, мы обучили своих докторов работе с ним непосредственно на фирме-изготовителе в Германии. После этого они совершенствовали свои знания в нашей Медицинской академии постдипломного образования. Все методики были тщательно отработаны на так называемых фантомных зубах. И только после того, как у самих врачей появилась внутренняя уверенность во владении этими методиками, мы начали внедрение лазерной технологии в нашем центре.

**— Чем же выгодно отличается лазерный стоматологический аппарат от традиционной бор-машины?**

— Все, кто попробовал на себе этот вариант лечения, отмечают непривычность ощущений. Шум бор-машины уже вошел в пословицы, он вызывает психологический дискомфорт, ассоциируется с неприятными ощущениями. Лазерный аппарат производит звук, похожий на стрекот швейной машинки. Кроме того, при лечении лазерным лучом пациент ощущает не вибрацию, а легкие толчки. А раз нет вибрации, нет перегрева зуба, значит, устраняется одна из основных причин возникновения боли при стоматологическом лечении.

**— Но это, так сказать, внешние стороны. А если говорить о качестве лечения?**

— Лазер обеспечивает абсолютное иное качество работы.

Во-первых, он позволяет очень экономно, тщательно удалить пораженные ткани зуба.

Большим достоинством также является отсутствие послеоперационной чувствительности. Это достигается вследствие того, что полностью удаляется микробный слой, поверхность, которая обрабатывается лучом, стерилизуется, и это, безусловно, сказывается на ближайших и отдаленных результатах. Это свойство лазерного луча просто незаменимо в эндодонтии, то есть в лечении корневых каналов, откуда инфекцию убрать бывает чрезвычайно сложно.

Кроме того, после обработки лазером увеличивается сила сцепления пломбы с зубом. Значительно уменьшается риск развития кариеса под пломбой, что, к сожалению, бывает после лечения традиционным методом.

**— Во всех ли областях стоматологии применим лазер?**

— С помощью лазера можно лечить кариес и его осложнения (пульпит, периодонтит), устранять чувствительность зубов, подготавливать их к эстетической коррекции.

Очень большие возможности у лазера в пародонтологии. Мало того, что он полностью уничтожает болезнетворную микрофлору, но еще и позволяет удалять из карманов, которые образуются вокруг зуба при потере костной ткани, зубные отложения, камни. Причем лазер делает эту сложную, ювелирную работу очень умно: он не включается, пока не находит объект устранения. После обработки остается идеально гладкая поверхность, что очень важно, поскольку к такой поверхности не так быстро "приклеиваются" микробы. И со слизистой оболочки попутно удаляются нежизнеспособные ткани. Десна после этого плотно прилегает к зубу, возникают условия для идеальной гигиены полости рта, снимается воспаление, уменьшается подвижность зуба, то есть налицо все признаки улучшения клинического состояния.

Мы используется лазер в хирургии: удаляем папилломы, фибромы, делаем разрезы, иссекаем разросшиеся десневые сосочки.

Хорошие результаты мы наблюдаем при лечении эрозий, афт: герпеса губ, травматических повреждений слизистой полости рта. Хотя причины этих заболеваний могут быть разными, не всегда стоматологического характера, но главная задача в том, чтобы как можно быстрее снять воспаление, болезненные ощущения, не допустить высыпания новых очагов. Если сразу же после появления афта обрабатывается лазером, то результаты потрясающие — ни отека, ни боли, ни появления новых высыпаний.

**— Создается впечатление, что наконец-то найден способ безболезненно решать все стоматологические проблемы.**

— Я не испытываю какой-то эйфории. Но даже при всем моем профессиональном скепсисе могу уверенно сказать, что эта технология открывает большие перспективы.

Любая новая технология — это эксклюзив. И техника, и препараты, и обучение специалистов стоят очень дорого. Получая такую помощь, человек должен сознавать, что это лечение просто не может быть дешевым. Но у пациента есть выбор: лечить зубы традиционными методами со всеми сопутствующими ощущениями или при помощи новых технологий. А сделать выбор помогает достоверная информация.

**Александра ЛОБЗОВА.**





## Новы кардыяхірургічны цэнтр

Восенню гэтага года на базе 1-й клінічнай бальніцы Мінска пачне працаваць дзіцячы кардыяхірургічны цэнтр.

Як паведаміў начальнік упраўлення арганізацыі медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Беларусі **Аляксандр Цыбін,** увядзенне новага цэнтра дазволіць скараціць колькасць тых, хто чакае аперацыі, паколькі тэмпы правядзення аперацый стануць больш дынамічнымі.

Штогод у чарзе на правядзенне аперацыі на сэрцы стаяць 1200 дзяцей, у той час як выконваюцца каля 500 такіх аперацый. Кожны год у Беларусі нараджаюцца каля 600 дзяцей з прыроджанымі парокамі сэрца. Каля 60 працэнтаў з іх паміраюць на працягу першага года жыцця.

**Вольга АСІПЕНКА.**

МЕДДАВЕДКА

# Халестэрыну павінна быць яшчэ менш

*Амерыканскія спецыялісты лічаць, што ўзровень халестэрыну павінен быць яшчэ ніжэйшым за той, які дагэтуль лічыўся бяспечным.*

Заакеанскія эксперты знізілі дапушчальны ўзровень халестэрыну са 130 да 100 міліграмаў у 100 мілілітрах плазмы. Вучоныя кажуць, што гэта было прадыктавана вынікамі 5 клінічных даследаванняў.

Цягам даследаванняў выявілася, што ў людзей пажылага ўзросту, а таксама ў тых, хто многа курыць, скардзіцца на высокі крывяны ціск, хварэе на дыябет, павялічваецца рызыка хвароб сэрца на 20%, чым у астатніх. І яны абавязаны сачыць за ўзроўнем халестэрыну ў крыві.

Нагадаем, што халестэрын — гэта арганічнае рэчыва, стэроід, які неабходны для правільнага функцыянавання арганізму. Без халестэрыну было б немагчымае аднаўленне клетак, вытворчасць палавых гармонаў, вітаміну D, а таксама жоўцевых кіслот, якія забяспечваюць правільнае страваванне тлушчаў.

Недахоп халестэрыну ў арганізме вядзе да розных інфекцый і ракавых захворванняў. Аднак няма прычын хвалявацца — у здаровым арганізме яго ў дастатковай колькасці выпрацоўвае печань. Значна часцей праблемай з'яўляецца якраз-такі ягоны лішак. Халестэрын у вялікай колькасці паступае ў арганізм з ежай, асабліва з мясам, яйкамі і маслам. Найбольш шкодны халестэрын — гэта ліпапратэін нізкай шчыльнасці. Так званы дрэнны халестэрын, які лёгка асядае на сценках артэрый, блакіруе іх, можа выклікаць інфаркт альбо інсульт.

Другі від — гэта ліпапратэін высокай шчыльнасці. Такія ліпапратэіны збіраюць шкодны халестэрын са сценак артэрый і пераносяць яго ў печань, дзе ён перарабляецца ў жоўцевыя кіслоты. Людзі, у якіх нізкі ўзровень "добрага" халестэрыну (ніжэй за 35 міліграмаў на 100 мілілітраў плазмы), часцей хварэюць на сардэчна-сасудзістыя хваробы.

Што азначаюць на практыцы новыя рэкамендацыі? Каля 10 мільёнаў амерыканцаў прымаюць цяпер лекі для зніжэння халестэрыну. Зараз ім трэба будзе павялічыць дозы лекаў, а яшчэ як мінімум 8 мільёнаў чалавек будуць павінны пачаць лячэнне, каб знізіць узровень халестэрыну ў крыві. "Стаціны зніжаюць рызыку хвароб сэрца на 30—40%, а лячэнне гэтых хвароб абыходзіцца ў сотні мільярдаў долараў", — кажа доктар Джэймс Клімэн, каардынатар Нацыянальнай праграмы адукацыі ў пытаннях халестэрыну.

**Алеся КОВАЧ.**

# Личный врач за 5 долларов — это реально?!

*Узнав о том, что «ЛОДЭ» выводит на рынок медицинских услуг новую программу, мы решили взять интервью у заместителя директора по лечебной работе* ***Галины Витальевны ВОЛЖАНКИНОЙ***

— Да, мы действительно разработали новую программу "Личный врач организации". Стоимость этой программы — **11 000 руб. для 1 человека в месяц.** Это делает доступными услуги программ "Личный врач" для сотрудников любого предприятия. Тем более что оплачиваться программа может как самим предприятием, так и "в складчину" с сотрудниками. Мы стремимся к тому, чтобы все больше людей могли получать качественные медицинские услуги.

**— В чем же суть этой программы?**

— Суть программы в том, что высококвалифицированный врач регулярно, два раза в месяц приходит в организацию, заключившую договор, и осматривает сотрудников для того, чтобы выявить заболевания на начальной стадии, дать необходимые рекомендации человеку, перенесшему какое-либо заболевание или страдающему хроническими болезнями. Терапевт подробно расспросит каждого сотрудника о его жалобах, проведет осмотр, при необходимости разработает схему дальнейшего обследования, затем обобщит полученные результаты, назначит необходимое лечение и в дальнейшем будет контролировать его эффективность, корректируя лечение по ходу изменения состояния пациента. Врач даст рекомендации по ведению здорового образа жизни, питанию, физическим нагрузкам. Одним словом, основная цель программы — профилактика заболеваний среди сотрудников конкретного коллектива.

На мой взгляд, личный врач на любом предприятии повысит корпоративный дух, на такую фирму охотно пойдут работать люди, потому что они понимают: от них не только ждут ударной работы, но и заботятся об их здоровье.

**— Галина Витальевна, а где можно будет пройти дополнительное обследование, назначенное врачом?**

— Осуществить диагностику можно в нашем Профессорском лечебно-консультативном центре. На сегодняшний день "ЛОДЭ" имеет великолепное диагностическое оборудование — современные аппараты УЗИ, эндоскопы, кольпоскопы, собственную лабораторию. И, что самое главное, в "ЛОДЭ" консультируют профессора, доценты, кандидаты медицинских наук по 36 направлениям (а всего в "ЛОДЭ" — 56 направлений медицинской деятельности) и работает коллектив профессионалов, который формировался в течение 11 лет.

Выбрав удобное для себя время и записавшись заранее, можно получить консультацию высококвалифицированного специалиста или пройти обследование. Причем для сотрудников организации, обслуживающихся по программе "Личный врач организации", медицинская помощь будет льготной. Более того, мы можем оздоровить сотрудников предприятия в нашем пансионате на острове Лепельского озера. Это необыкновенное место для отдыха и корпоративных мероприятий. Для наших клиентов, которые обслуживаются по программам, мы предлагаем различные варианты проведения досуга и скидки на них.

**— Ваш центр давно предлагает такую услугу, как "Личный врач". Выходит, опыт уже есть?**

—- Эти программы в чем-то схожи. И в одном, и в другом случае врач ставит перед собой задачу предупредить болезнь, научить людей вести здоровый образ жизни.

Программы "Личный педиатр", "Личный терапевт", "Личный гинеколог" действуют в "ЛОДЭ" уже 10 лет. Каждый год пациенты центра заключают с нами договора по этим программам. Люди перестали опасаться за свое здоровье, они уверены, что их здоровье находится под надежной защитой, им всегда помогут в сложной ситуации, а самое главное — не допустят ее.

Программа "Личный врач организации" — это инновационное решение оказания медицинской помощи на предприятии. В отличие от программы "Личный врач", где пациента мы наблюдаем в центре, эта программа предлагает услугу "на выезде". Человеку не надо выкраивать время, чтобы посетить терапевта. Врач проводит осмотр на предприятии.

В Москве некоторые частные медицинские центры начинали работать именно с этих проектов. И весьма успешно. Эта услуга востребована.

Я уверена, и у нас фирмы и предприятия также заинтересованы в здоровье своих сотрудников. Примером служит то, что каждую осень с нами заключают договора на вакцинацию сотрудников от гриппа многие организации страны.

Важно, что у предприятий появился выбор: за весьма небольшую плату иметь здоровых сотрудников или оплачивать больничные листы и нести убытки из-за "потерь в личном составе".

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**





18
жнівень
СЕРАДА
Усх. 5.53 Зах. 20.33
Даўж. дня 14.40
Маладзік 16 жніўня

**95 гадоў** з дня нараджэння І.І. Валасевіча (1909—1941), Героя Савецкага Саюза, ураджэнца в. Ціхны Бярозаўскага раёна

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.
E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by
Індэкс 63222.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 31 610 экз. Заказ № 712.